Заснавана ў сакавіку 1935 года

# Добрушскі Край

Раённая масавая газета

№88 (8604) 15 жніўня 2000 г. АЎТОРАК

Падпісны кошт нумара 25 рублёў.

Беларусь, твой народ
дачакаецца
Залацістага, яснага дня...

УСЁ ВЫРАШЧАНАЕ — УБРАЦЬ І ЗБЕРАГЧЫ

ГВАРДЗЕЙЦЫ ЖНІВА

## Малайцы, студэнты!



У калгасе "Шлях да камунізму" жніво выходзіць на фінішную прамую. Радуе мясцовых хлебаробаў ураджай. На круг у гаспадарцы збіраюць больш як 28 цэнтнераў зерня.

Горача зараз на калгаснай хлебнай ніве.

— За лёс вырашчанага ўраджаю хвараюць усе механізатары, — расказвае старшыня калгаса І.І.Іванаускас. — Радуе, што ад вопытных, са стажам механізатараў не адстае і моладзь.

З цеплынёй кіраўнік гаспадаркі расказвае пра маладзёжны студэнцкі камбайнавы экіпаж у саставе студэнтаў Беларускага аграрна-тэхнічнага універсітэта Рамана Трацціннікава і Гомельскага дзяржаўнага універсітэта Аляксандра Сычова.

Раман Трацціннікаў закончыў Буда-Кашалёўскі сельгастэхнікум, а ва універсітэце зараз вучыцца на чацвёртым курсе. Летась юнак паспеў папрацаваць на камбайне побач з вопытным механізатарам Н.Н.Досавым.

Сёлета ж сам узначаліў экіпаж. Зараз на рахунку студэнтаў больш як 300 тон намалочанага зерня.

Жніво працягваецца. Добрых вам намалотаў, хлопцы!

М.ПЛЁСАЎ.

*НА ЗДЫМКУ: Раман Трацціннікаў і Аляксандр Сычоў.*

ФОТА В.ТАЛКАЧОВА.

ВЫБАРЫ

## Задачы акрэслены

На мінулым тыдні ў райвыканкаме адбылася нарада, у якой прынялі ўдзел старшыні райвыканкамаў сельскіх Саветаў, намеснікі кіраўнікоў калгасаў, саўгасаў, прадпрыемстваў і арганізацый па інфармаванню насельніцтва.

Старшыня райвыканкама А.М.Старацітараў акрэсліў асноўныя задачы ў перыяд падрыхтоўкі і правядзення выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

Намеснік старшыні райвыканкама па інфармаванню насельніцтва А.А.Парукаў падкрэсліў асаблівасць сёлетніх выбараў, зрабіў акцэнт на правядзенні ў раёне інфармацыйна-растлумачальнай работы ў перыяд да іх падрыхтоўкі.

Загадчык арганізацыйна-кадравага аддзела райвыканкама В.П.Грамыка засяродзіў увагу прысутных на растлумачэнні асобных раздзелаў Выбарчага кодэксу, што тычацца вылучэння кандыдатаў у дэпутаты, тэхналогіі збору подпісаў і непасрэдна галасавання, узаемадзеяння мясцовых улад і выбарчых камісій у працэсе падрыхтоўкі да выбараў.

У рабоце нарады прыняў удзел старшыня раённага Савета дэпутатаў С.А.Кір'янцаў. Ён інфармаваў прысутных аб маючым адбыцца Усебеларускім з'ездзе Саветаў, заклікаў дэпутатаў усіх узроўняў прыняць актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, аператыўна вырашаць усе набалелыя сацыяльныя пытанні.

М.ШЫШОЎ.

## Не колькасцю, а ўменнем

Зерневы палетак калгаса "Чырвоны Кастрычнік" займае больш чым 1200 гектараў. Зараз абмалот збажыны вядзецца на другой палавіне ўборачнай плошчы. І ўраджай хлебаробы "Чырвонага Кастрычніка" вырасцілі нядрэнны. З кожнага гектара ў гаспадарцы ў сярэднім намалочваюць больш як 25 цэнтнераў зерня. На абмалоце задзейнічаны сем наяўных камбайнаў.

На жніве-2000 разгорнута працоўнае спаборніцтва. Пераможцаў чакаюць узнагароды. Вынікі спаборніцтва падводзяцца кожны дзень. Ужо сёння можна назваць кандыдатаў у пераможцы. Гэта механізатар Мікалай Іванавіч Мінчанка. Ён намалаціў на камбайне "ДОН-1500" звыш 400 тон зерня. Мікалай Іванавіч па выніках работы прыкметна апярэджвае сваіх канкурэнтаў па працоўнаму сапернiцтву.

А вось зрабіць прагноз — хто ж выйдзе пераможцай спаборніцтва на адвозцы зерня ад камбайнаў, фактычна немагчыма. На транспарціроўцы збожжа з палеткаў на зерняток задзейнічаны тры вадзіцелі. Больш за ўсіх перавёз яго Іван Максімавіч Малаеў, які працуе на аўтамашыне "ЗІЛ-130". Дарэчы, ён лідзіруе і ў раённым спаборніцтве. І.М.Малаеў — адзін са старэйшых вадзіцеляў. Руль аўтамабіля круціць звыш 40 гадоў. Па ўсяму бачна, што прафесійны вопыт, набыты дзесяцігоддзямі, і дапамагае яму быць зараз наперадзе.

На другім месцы ідзе вадзіцель Міхаіл Міхайлавіч Марфушкін. На яго асабістым рахунку 565 тон даставленага на зерняток збожжа. Крыху ад яго адстае Аляксандр Міхайлавіч Куцапалаў. Ён перавёз 556 тон зерня. У абодвух вадзіцеляў — аўтамашыны "ГАЗ-53".

Работай звяна на адвозцы зерня ў калгасе задаволены.

— У ранейшыя гады на жніве ў нас было звычайна задзейнічана 5-7 аўтамашын, — успамінае дыспетчар гаспадаркі А.І.Старавойтава. — Сёлета, як бачыце, удвая менш. Аднак, затрымак з адвозкай няма. Камбайны з-за транспарту не прастойваюць.

В.ГАРБАЧОЎ.

## Хлеб — дзяржаве

Усе гаспадаркі раёна прыступілі да рэалізацыі збожжа дзяржаве. У агульнай колькасці калгасам і дзяржгасам сёлета патрэбна паставіць на млынкамбінаты вобласці 12370 тон хлеба. Па стану на 11 жніўня земляробы накіравалі ў засекі дзяржавы 5128 тон зерня, што складае 41 працэнт да запланаванага.

Самыя вялікія дзяржзаказы на пастаўку хлеба паступілі калгасам "Беларусь", імя Калініна, "Абарона". Гэтым гаспадаркам патрэбна прадаць па тысячы тон зерня.

Рэалізацыя ўраджаю ў разрэзе гаспадарак праходзіць па-рознаму. Больш за ўсіх прадаў хлеба калгас "Шлях да камунізму" — 547 тон. Звыш палавіны запланаванага рэалізавалі зерня дзяржаве калгасы імя Калініна, "Чырвоны Кастрычнік", "Перамога", "Ленінскі шлях", імя Кірава, племзавод "Жгунскі" і саўгас "Івакі".

Акрамя хлеба асобныя гаспадаркі вядуць продаж рапсу. Так, калгасы імя Калініна, "Ленінскі шлях" і "Беларусь" рэалізавалі насеннем і ў якасці тэхнічнай сыравіны адпаведна 53, 25 і 20 тон гэтай культуры.

Істотную дапамогу ў вывазцы ўраджаю-2000 на хлебапрыёмныя пункты аказваюць арганізацыі і прадпрыемствы Добруша і Гомеля. У ліку іх — ААТ "Добрушская райаграпрамтэхніка", РВА "Сельгасхімія". Штодня горад накіроўвае ў дапамогу вяскоўцам да 40 аўтамашын.

(Наш кар.)

*За шматгадовую добрасумленную працу ў будаўнічай галіне і ў сувязі з прафесійным святам – Днём будаўніка – Ганаровай граматай раённага выканаўчага камітэта ўзнагароджаны:*

*Віншуем!*

*Аляксандр Іванавіч Малаеў – прараб ПМК-95;*
*Вацлаў Цэзаравіч МАРКО – вадзіцель ПМК-95.*

* * *

*За добрасумленную і плённую працу ў будаўнічай галіне і ў сувязі з Днём будаўніка раённы выканаўчы камітэт накіраваў удзячныя пісьмы*
*Наталлі Мікалаеўне МУХНАЙ – тынкоўшчыку-маляру ПМК-95;*
*Анатолю Васільевічу ОСТРЫКАВУ – цесляру ПМК-95.*

ВЫБАРШЧЫКУ

## Парадак вылучэння кандыдатаў у дэпутаты

***У райвыканкам і акруговую выбарчую камісію паступаюць пытанні аб парадку вылучэння кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.***

***Сёння тлумачэнні нашым чытачам дае намеснік старшыні акруговай выбарчай камісіі Аляксандр Андрэевіч ПАРУКАЎ.***

Права вылучэння кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў належыць палітычным партыям, якія зарэгістраваны Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь не пазней як за шэсць месяцаў да назначэння выбараў, працоўным калектывам, а таксама грамадзянам шляхам збору подпісаў.

Вылучэнне ад палітычных партый робіцца вышэйшымі рэспубліканскімі органамі гэтых партый на з'ездах пры ўмове, што на тэрыторыі выбарчай акругі ёсць створаная ва ўстаноўленым парадку да назначэння выбараў, г.зн. да 14 ліпеня 2000 года, арганізацыйная структура палітычнай партыі, якая вылучае кандыдата.

Вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты ад працоўных калектываў робіцца на сходах або канферэнцыях выбаршчыкаў у працоўных калектывах. Арганізацыя павінна знаходзіцца на тэрыторыі выбарчай акругі, мець правы юрыдычнай асобы і налічваць не менш 300 рабочых.

Сходы склікаюцца адміністрацыяй арганізацыі па ўласнай ініцыятыве, а таксама па ініцыятыве групы выбаршчыкаў у колькасці не менш як 150 чалавек, якія працуюць ў арганізацыі. На сходзе павінна прысутнічаць больш палавіны састава працоўнага калектыву. Рашэнне сход прымае большасцю галасоў.

Кандыдат у дэпутаты можа быць вылучаны ад некалькіх меншых калектываў з агульнай колькасцю працоўных не менш як 300 чалавек на іх агульным сходзе. Пры гэтым ад кожнага калектыву, маючага права юрыдычнай асобы, на агульным сходзе павінна прысутнічаць больш палавіны яго саставу.

Працоўны калектыў можа вылучаць толькі аднаго кандыдата ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. І самы масавы шлях — вылучэнне кандыдатаў шляхам збору подпісаў выбаршчыкаў.

Вылучэнне робіцца ініцыятыўнай групай у колькасці не менш дзесяці чалавек. Спіс членаў ініцыятыўнай групы з указаннем яе кіраўніка разам з заявай аб рэгістрацыі групы падаецца ў акруговую выбарчую камісію, пачынаючы з 6 жніўня 2000 года. Вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты заканчваецца 4 верасня гэтага года.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

◆ У аб`ектыве «ДК» — ААТ «Добрушская папяровая фабрыка «Герой працы» ◆

# ...А ў нас — сезон "сшыткавы"



Школьнікі зараз на летніх канікулах. Самы бесклапотны, самы шчаслівы час! У нас жа, наадварот, "школьных" клопатаў прыбавілася: у разгары, а дакладней — ідзе да завяршэння "сшыткавы"сезон. Вучнёўскія сшыткі, іншыя школьныя прыналежнасці ў гэты час на фабрыцы, і ў першую чаргу ў нашым цэху, — прадукцыя нумар 1.

З 17 мая калектыў цэха перайшоў на трохзменную работу. Давялося, зразумела, набраць дадатковую колькасць рабочых. У першую чаргу, канешне, з ліку тых, хто мае спецыяльнасць машыніста сшыткавых агрэгатаў, машыніста рэзальных машын, слесара. Людзей набіралі з былых работнікаў-ветэранаў, прыцягвалі з іншых цэхаў, калі была такая магчымасць.



Згодна дзяржзаказу, сшыткі паступаюць зараз як на ўнутраны, так і на знешні рынак — ва Узбекістан, Малдову, Расію, Украіну і г.д. Папярэдне былі заключаны дагаворы на пастаўку прадукцыі з дзяржаўнымі, кааператыўнымі прадпрыемствамі, камерцыйнымі фірмамі. Толькі замежным гандлюючым структурам у жніўні мы абавязаны паставіць 27,5 мільёна школьных сшыткаў і 12 мільёнаў — на ўнутраны рынак. Адразу заўважу: заказ паспяхова выконваецца. А наогул, з пачатку года мы павінны паставіць спажыўцам 156 мільёнаў вучнёўскіх сшыткаў. У гэтыя жнівеньскія дні мы адгружаем іх у суткі да паўтара мільёна штук. Упэўнены, што да канца месяца дзяржзаказ будзе поўнасцю выкананы.

Зразумела, у нас, як і ва ўсіх вытворчых падраздзяленнях, у цэлым у фабрыкі, ёсць свае праблемы. Адна з іх — запасныя часткі для абсталявання. Негатыўна сказваецца распад Саюза "непарушнага", "самастойнасць" дзяржаў — былых саюзных рэспублік, і ў першую чаргу — дэфіцыт фінансавых сродкаў. Добра, што пад жнівень сыравінай мы забяспечаны. І гэта дзякуючы таму, што працуем на давальніцкай сыравіне — заказчыкі ў асноўным самі пастаўляюць нам паперу. Цэлюлозы наогул зараз практычна ні адкуль не атрымліваем. За частку прадукцыі заказчыкі разлічваюцца з намі сыравінай, часам — валютай, якая вельмі неабходная для прадпрыемства.

Попыт на нашу прадукцыю вельмі высокі, таму стараемся. Стараюцца нашы людзі. Калектыў цэха зладжаны, дружны. Зразумела, як кажуць у народзе, "у сям'і не без вырадка". Здараюцца і выпадкі крадзяжу прадукцыі, аднак мы ўсяляк стараемся папярэдзіць гэтую негатыўную з'яву.

У асноўным жа работнікі ў нас добрасумленныя, валодаюць пачуццём высокай адказнасці за сваю справу. З задавальненнем хачу назваць сёння лепшых з іх: старшага наладчыка Генадзя Казлова, машыністаў Аляксандра Кушнярова, Дзмітрыя Сівакова... Пералік прозвішчаў прыкладных работнікаў можна было б і прадоўжыць...

Вялікую ўвагу, зразумела, удзяляем якасці выпускаемай прадукцыі. І ў гэтым значную дапамогу нам аказваюць кантралёры аддзела тэхнічнага кантролю Галіна Марозава, Ірына Чайкіна.

Адным словам, калектыў сшыткавага цэха робіць усё магчымае, каб дзеці нашай рэспублікі, дзеці замежжа былі забяспечаны нашай прадукцыяй, былі задаволенымі яе якасцю.

**А.ДЗЕГЦЯРОЎ,**
**в.а.начальніка сшыткавага цэха.**





*НА ЗДЫМКАХ: Пяты год працуе на фабрыцы Аляксандр Яўгенавіч Кушняроў. Зараз ён — машыніст чацвёртага разраду сшыткавага агрэгата. Пасля службы ў арміі працаваў горнарабочым ачыснога забою на шахце ў Данецку. Праз тры гады вярнуўся на радзіму — у Добруш. Не адзін — з жонкай Лідзіяй Уладзіміраўнай. Разам і прыйшлі на папяровую фабрыку. Жонка Аляксандра Яўгенавіча працуе тут жа, у сшыткавым цэху;*

*Адзін з лепшых машыністаў сшыткавых агрэгатаў Д.У.Сівакоў. У свой час Дзмітрый закончыў прафтэхвучылішча №99, служыў у арміі, прыйшоў у цэх вучнем. Цяпер ён — машыніст чацвёртага разраду. Тут жа, на фабрыцы, працуюць яго маці і бацька. Дзмітрый Сівакоў — патомны папернік;*

*Ірына Яўгенаўна Чайкіна — вартавы якасці выпускаемай прадукцыі. Яна — кантралёр АТК у сшыткавым цэху. Пасля заканчэння Навазыбкаўскага прафтэхвучылішча два гады працавала ў Бранску, затым вярнулася ў родны Добруш. Выйшла замуж. Муж таксама працуе на фабрыцы на сёмай папераробчай машыне. Ірына Яўгенаўна задаволена жыццём: добры муж, двое дзяцей — 14-гадовая Аня і 9-гадовы Сяргей. Работа — побач з домам. Побач і рэчка, і лес;*

*У сшыткавым цэху — гарачая пара.*

**ФОТА В.ТАЛКАЧОВА.**

**ПРАФСАЮЗНАЕ ЖЫЦЦЁ**

## Швецыя — гасцінная краіна

Стала ўжо не навіной тое, што дзеці нашы праходзяць аздараўленне за рубяжом. Штогод летам сотні тысяч беларусаў едуць за мяжу, каб набрацца сіл, здароўя да новага навучальнага года.

Аздараўленнем дзяцей займаюцца, як правіла, прафсаюзы. Самая вялікая прафсаюзная арганізацыя работнікаў лесу ў рэспубліцы — гомельская, а ў Гомельскай вобласці, бадай, — добрушская. Нездарма на адпачынак у Швецыю з 10 па 31 ліпеня была адпраўлена група ў саставе дзесяці дзяцей добрушскіх папернікаў і адзінаццаці з іншых раёнаў вобласці, адказным у гэтай паездцы быў старшыня прафсаюзнага камітэта фабрыкі А.Ф. Каржоў.

Вялікі дзякуй гаворачь рабяты жыхарцы Швецыі Наталі Андэрсэн, якая вось ужо колькі год падтрымлівае сувязь з гомельскім абкамам прафсаюза работнікаў лесу і запрашае нашых дзяцей на адпачынак.

## Дэлегаты з'езда — прадстаўнікі фабрыкі

У сераду, 9 жніўня, у сталіцы Беларусі горадзе Мінску адбылася трэці з'езд Беларускага прафсаюза работнікаў лесу. Яго дэлегатамі з'яўляліся і нашы прадстаўнікі – дырэктар ААТ "Добрушская папяровая фабрыка "Герой працы" В.І. Лупекін і старшыня прафсаюзнага камітэта прадпрыемства А.Ф. Каржоў. Самай шматлікай, дарэчы, была дэлегацыя Гомельскай вобласці – каля пяцідзесяці чалавек.

З'езд прафсаюза разгледзеў пытанні аб рабоце рэспубліканскага камітэта прафсаюза работнікаў лесу, справаздачу рэўкамісіі, аб змяненнях і дапаўненнях у Статут Беларускага прафсаюза работнікаў лесу і іншыя.

На з'ездзе з прамовай выступіў і наш прадстаўнік – старшыня прафсаюзнага камітэта адкрытага акцыянернага таварыства "Добрушская папяровая фабрыка "Герой працы" Аляксандр Фёдаравіч Каржоў. У сваім выступленні лідэр нашых папернікаў падзяліўся вопытам работы прафкама, выказаў свае меркаванні па паляпшэнню дзейнасці прафесіянальнага саюза.

**(Наш кар.)**

# Парадак вылучэння кандыдатаў у дэпутаты

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Па стану на 10 жніўня гэтага года наша акруговая выбарчая камісія зарэгістравала дзве ініцыятыўныя групы ў падтрымку Васіля Іванавіча Яцэвіча – намесніка начальніка Гомельскага аблсельгасхарчу, члена ПКБ, і Мікалая Міхайлавіча Камяка – намесніка старшыні камісіі па аграрных пытаннях Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, члена аграрнай партыі.

Асобу, якую мяркуюць вылучыць кандыдатам у дэпутаты, павінны падтрымаць не менш як 1000 выбаршчыкаў, якія пражываюць на тэрыторыі акругі.

У падпісным лісце ўказваецца прозвішча, імя, імя па бацьку, дата нараджэння, прафесія, пасада, месца работы і жыхарства, партыйнасць кандыдата ў дэпутаты, а таксама прозвішча, імя, імя па бацьку члена ініцыятыўнай групы, збіраючага подпісы.

Асабліва хочацца адзначыць, што збор подпісаў робяць толькі члены ініцыятыўнай групы. Зараз ёсць скаргі, што на некаторых вуліцах г. Добруша подпісы збіраюць асобы, якія не ўваходзяць у састаў ініцыятыўнай групы. Гэта, па-першае, недапушчальна. Па-другое, характарызуе бязграматную работу кіраўніка ініцыятыўнай групы.

У падпісным лісце ўказваюцца прозвішча, імя, імя па бацьку, дата нараджэння, месца жыхарства, серыя і нумар пашпарта або замяняючага яго пасведчання асобы выбаршчыка, уласная дата подпісу і подпіс.

Адказнасць за дастаравернасць утрымліваючых у падпісных лістах даных нясе член ініцыятыўнай групы, які рабіў збор подпісаў.

Яшчэ адзін важны аспект пры зборы подпісаў, на які трэба звярнуць увагу выбаршчыкаў. Забараняецца прымусовы збор подпісаў і ўдзел у гэтым адміністрацыі.

Часта мне задаюць такія пытанні:

1) " А ці можна займацца зборам подпісаў на прадпрыемствах і ў арганізацыях?"

— Можна, але толькі ў нерабочы час і не на вытворчасці.

2) "Ці можа кандыдат у дэпутаты збіраць за сябе подпісы?"

— Можа, калі кандыдат у дэпутаты ўключыў сябе ў члены ініцыятыўнай групы.

# Пад жнівеньскія росы





Лён у калгасе імя Калініна сёлета вырашчаны на 120 гектарах. Па-ўсяму бачна, што даўгунец урадзіў нядрэнны.

— У своечасовай і якаснай уборцы гэтай тэхнічнай культуры зацікаўлены не толькі льнаводы нашай гаспадаркі, — расказвае старшыня калгаса М.А.Кауноў, — але і рабочыя Церахоўскага льнозавода.

І яны неадкладна прыйшлі на дапамогу калгаснікам. На мінулым тыдні на льняным палетку працавалі два камбайны ЛК-4. Пастараліся механізатар Уладзімір Дудузаў і камбайнер Васіль Сцепаненка. За некалькі дзён яны ўбралі 20 гектараў даўгунцу. Выцерабленая саломка рассцелена пад жнівеньскія росы.

Пакуль лён у гаспадарцы выцераблены на тых участках, дзе ён паспеў. Праз дзень-другі работы на палетку адновяцца.

**М.ПЛЁСАЎ.**

***НА ЗДЫМКАХ: механізатар У.Дудузаў і камбайнер В.Сцепаненка; церабленне даўгунцу.***

**ФОТА В.ТАЛКАЧОВА.**

## ПАТРАБУЕ ВЫРАШЭННЯ

# Спакуса для злодзеяў

Супрацоўнікамі раённага аддзела ўнутраных спраў пастаянна праводзіцца шэраг мерапрыемстваў у рамках аперацыі "Аграрнік". Мэта гэтай дзейнасці — не толькі раскрыццё злачынстваў, дробных крадзяжоў у аграпрамысловым сектары, але і іх папярэджанне. Рэгулярна праводзяцца рэйды. Пры выездах на сельскагаспадарчыя аб'екты высвятляецца, што ўмовы, пры якіх захоўваюцца таварнаматэрыяльныя каштоўнасці, нікуды не вартыя. У першую чаргу гэта сельгаспрадукцыя. Прывяду прыклад.

Мэтай аднаго з апошніх рэйдаў, згодна плана "Аграрнік", была праверка тэхнічнай умацаванасці месцаў захоўвання зерня, наяўнасці электрычнага асвятлення і вартаўнікоў аховы на зернетаках. Адным з адрасоў быў калгас імя Фрунзе. У гаспадарцы выяўлены шэраг недахопаў. Напрыклад, у вёсцы Кругавец каля запраўкі на зямлю былі скінуты калійныя ўгнаенні.

Склад для захоўвання зерня ў гэтым жа населеным пункце не адпавядае патрабаванням тэхнічнай умацаванасці. Праз дзіркі ў варотах можна свабодна пранікнуць у памяшканне. Склад не ахоўваецца. Чым не спакуса для злодзеяў?

Зерняток у вёсцы Усохі фактычна ў начны час не асвятляецца. Пад'язныя шляхі да яго дрэнныя. Жадае лепшага тэхнічная ўмацаванасць памяшкання для складзіравання зерня. Вароты закручаны дротам, а не замкнуты звонку. Акрамя таго, зерне засыпаецца пад павець, дзе раней знаходзіліся калійныя ўгнаенні, што супярэчыць санітарным нормам.

**В.МАКСІМОВІЧ,**
**падпалкоўнік міліцыі.**

## ДА ЎВАГІ БАЦЬКОЎ

# Колькі плаціць за падручнікі?

У маі бягучага года Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову "Аб парадку збірання ў 2000 годзе платы за карыстанне навучэнцамі падручнікамі".

Устаноўлена на 2000/2001 навучальны год плата за карыстанне навучэнцамі дапаможнікамі ў размеры 25 працэнтаў кошту камплекта для навучэнцаў падрыхтоўчага, 1-11(12-х) класаў. Указаная плата бярэцца з бацькоў або асоб, якія іх замяняюць, дзеці якіх вучацца ў агульнаадукацыйных школах, у школах-дзіцячых садах, у школах-інтэрнатах, гімназіях, ліцэях. У вячэрніх (зменных) агульнаадукацыйных школах указаная плата бярэцца з бацькоў або асоб, якія іх замяняюць або ўносіцца самімі навучэнцамі.

Плата за карыстанне дапаможнікамі зніжаецца на 50 працэнтаў для сем'яў, у якіх выхоўваюцца трое і больш дзяцей дашкольнага і школьнага ўзросту.

Ад платы за падручнікі вызвалены бацькі або асобы, якія іх замяняюць, дзеці якіх вучацца ў агульнаадукацыйных санаторных школах-інтэрнатах, а таксама тыя, чые дзеці маюць асаблівасці псіхафізічнага развіцця.

Гэта датычыць і сем'яў, сукупны даход якіх на члена сям'і ў месяц за папярэдні год не перавышае 50 працэнтаў сярэднедушавога мінімальнага спажывецкага бюджэту сям'і з чатырох чалавек, зацверджанага ў цэнах верасня 1999 года.

За падручнікі не плоцяць і сем'і, у якіх адзін або двое бацькоў з'яўляюцца інвалідамі першай або другой групы.

Ад платы вызваляюцца сем'і ваеннаслужачых, а таксама рабочых і служачых, якія займалі штатныя пасады ў вайсковых часцях у саставе савецкіх войскаў; загінуўшых, памёршых або стаўшых інвалідамі пры выкананні службовых абавязкаў на тэрыторыі дзяржаў, у якіх вяліся баявыя дзеянні, а таксама сем'і ваеннаслужачых, якія загінулі ў мірны час пры выкананні службовых абавязкаў.

Дзецям-сіротам і дзецям, якія засталіся без бацькоў, дзецям-інвалідам ва ўзросце да 18 год падручнікі выдаюцца бясплатна.

**Т.ЦЮФЦІНА,**
**метадыст аддзела адукацыі.**

# Праіндэксаваны шэраг камунальных тарыфаў

**У жніўні жыхары будуць плаціць за кватэру крыху больш. У адпаведнасці з пастановай Міністэрства эканомікі ад 1 жніўня праіндэксаваны шэраг камунальных тарыфаў.**

Стаўка платы за карыстанне жылымі памяшканнямі (тэхнічнае абслугоўванне) павялічана з 5,39 да 6,03 рубля за квадратны метр агульнай плошчы. Нагадаем, што разлікі па такому тарыфу праводзяцца толькі ў дачыненні да ўстаноўленай нормы плошчы (20 квадратных метраў на чалавека, 10 — на сям'ю), астатняе ідзе па сабекошту.

Тарыфы на халоднае водазабеспячэнне, каналізацыю і карыстанне ліфтам павышаны на 11,9 працэнта. На столькі ж павялічаны плацяжы за газазабеспячэнне. Менавіта такі індэкс змянення цэн на прадукцыю вытворча-тэхнічнага прызначэння склаўся за чэрвень. Адпаведна «падцягнулі» і тарыфы.

## ПЫТАННЕ – АДКАЗ

# Страхаванне: сведчыць статыстыка

***Калі ласка, раскажыце пра статыстыку страхавых выплат па страхаванню грамадзянскай адказнасці ўладальнікаў транспартных сродкаў.***

**А. ВАСІЛЬЕЎ. г. Добруш.**

*На пытанне нашага чытача адказвае дырэктар раённага аддзялення Белдзяржстраху А.С. КЛІМКОЎ.*

— З 1 ліпеня 1999 года мы заключылі 7864 дагаворы з уладальнікамі транспартных сродкаў. Зараз дзейнічаюць 4083 дагаворы.

Насцярожвае становішча ў сельскагаспадарчых арганізацыях. З імі заключаны ўсяго 251 дагавор. Па статыстычных даных, у іх у наяўнасці звыш тысячы транспартных сродкаў. Нялёгкае фінансавае становішча сельскіх працаўнікоў можна зразумець. Таму аплата страхавых узносаў прадугледжана ў два этапы.

У наша аддзяленне за гэты перыяд паступіла 28 заяў ад грамадзян і арганізацый.

Максімальная выплата ў гэтым годзе склала 117281 рубель. Тут неабходна дадаць, што Церахоўскі льнозавод заплаціў усяго 23085 рублёў, а атрымаў вышэйназваную суму.

## ЧАЛАВЕК І ЯГО СПРАВА

Валянціна Іосіфаўна Бугрымава ў вёсцы Івакі — чалавек вядомы і паважаны. Неўзабаве жанчына адзначыць 40-годдзе сваёй працоўнай дзейнасці. Увесь гэты час Валянціна Іосіфаўна працавала ў сістэме грамадскага харчавання. Пачынала поварам у сталовай саўгаса "Івакі". Апошнія дванаццаць гадоў В.І.Бугрымава разам з кухоннай рабочай Вольгай Іванаўнай Васільчанка кормяць вучняў Івакаўскай сярэдняй школы. Штодня на працягу навучальнага года жанчыны рыхтуюць да 230 абедаў.

У час летніх школьных канікулаў Валянціна Іосіфаўна не застаецца без справы. Смачныя абеды яна рыхтуе для хлебаробаў. На сёлетнім жніве ёй дапамагае рабочая саўгаса Валянціна Міхайлаўна Цубатава, якая развозіць стравы па палетках. Абеды заўсёды смачныя, каларыйныя.

***НА ЗДЫМКАХ: В.І.Бугрымава (злева) і В.М.Цубатава.***

**ФОТА В.ТАЛКАЧОВА.**



## РЦГЭ ПАВЕДАМЛЯЕ

# А аргумент — важкі...

Раённым цэнтрам гігіены і эпідэміялогіі ў ліпені бягучага года было праведзена 74 даследаванні на ўтрыманне радыецэзію ў харчовых прадуктах з грамадскага сектара (дзіцячая малочная кухня, камбінат грамадскага харчавання, каўбасны цэх, маслазавод, сыравіннае малако, нарыхтоўчыя арганізацыі, 185 даследаванняў малака, агародніны, сталовай зяляніны, бульбы, рыбы, грыбоў, ягад, кансерваваных прадуктаў з ягад і грыбоў з прыватнага сектара і 28 даследаванняў пітной вады.

Прадукты з грамадскага сектара і пітная вада адпавядаюць дзеючым нарматывам, у прыватным сектары зарэгістравана з перавышэннем РДУ-99 па ўтрыманню радыецэзію шэсць проб малака з Добруша, Селішча-І, Харошаўкі, восем проб дзікарослых ягад, дастаўленых дабрушанамі з Шабрынскага лясніцтва, дванаццаць проб свежых і кансерваваных грыбоў.

Больш падрабязная інфармацыя ўтрымліваецца ў наступнай табліцы:

| Назва прадукта | Усяго даследавана проб за ліпень | Удзельная вага проб з перавыш. (%) | Узроўні забруджвання (мінімальн.-максімальн.) (Бк/кг/л) | Дапушчальныя ўзроўні (Бк/кг/л) |
|---|---|---|---|---|
| Малако | 112 | 5,6 | 106,3-175,8 | 100 |
| Грыбы свежыя | 4 | 75 | 920-6687 | 370 |
| Грыбы кансерваваныя | 8 | 37,5 | 382-5592 | 370 |
| Чарніцы | 9 | 88,9 | 205,9-2489 | 185 |
| Варэнне з чарніц | 2 | 100 | 186,4-584,1 | 185 |

Як бачна, 75 працэнтаў "брудных" грыбоў і 89 працэнтаў дзікарослых ягад — дастаткова важкі аргумент, каб адмовіцца ад іх ужывання ў ежу. Неабходна падкрэсліць і тое, што пачасціліся выпадкі атручвання грыбамі.

А вось "бруднае" малако — вынік выпасу жывёлы на неакультураных пашах.

**В.ГАЛАГАНАВА,**
**урач-лабарант РЦГЭ.**

# ФУТБОЛЬНЫЯ СТРАСЦІ

## Нарысы па гісторыі добрушскага спорту

ПАМЯЦЬ

На архіўным чарцяжы «План территории Добрушской бумажной фабрики «Герой труда» и жилых поселков. Съемка 1939 г. Киевский Институт Укргипробума» сярод мноства вытворчых і камунальных аб'ектаў пазначаны адзін асаблівы — фабрычны стадыён. Ён размяшчаўся каля праспекта імя А.В.Луначарскага, за клубам побач з невялікім возерам, што засталося ад старыннага рэчышча Іпуці. (Зараз там знаходзяцца кааператыўныя гаражы і будынак транспартнага цэха).

Многія дабрушане яшчэ памятаюць той, колішні стадыён. Расказваюць, ён быў дабротна абсталяваны, меў футбольнае поле, бегавыя дарожкі, трыбуны для гледачоў-балельшчыкаў, бытавое памяшканне для спартсменаў; побач быў стралковы цір. Ураджэнец Добруша, палкоўнік у адстаўцы Уладзімір Аляксеевіч Астапаў, які цяпер жыве ў г.Елгаве (Латвія), успамінае:

— Калісьці тут быў вялікі сад праз дарогу, а ў многіх месцах стаялі старажытныя дубы. Адзін з іх застаўся каля драўлянага дома, дзе жыла наша сям'я, з калодзежам у двары. З яго бралі вельмі добрую ваду. Памятаю, як праз калітку да калодзежа прыходзілі спартсмены асвяжыцца пасля трэніровак або спаборніцтваў. Тады ўсе жыхары любілі спорт, асабліва футбол...

Сапраўды, гэты від спорту ў мінулыя гады быў вельмі папулярны ў нашым горадзе. Па ўспамінах старажылаў, першая футбольная каманда арганізавалася яшчэ ў 20-х гадах, яе з'яўленне звязана з імёнамі энтузіястаў фізкультурна- масавай работы У.І.Сыцінскага, Я.П.Сумерава, М.В.Шаўчэнкі. Добрушскія аматары скуранога мяча на чале з інструктарам па спорту М.І.Пасеніцкім ужо тады выязджалі на спаборніцтвы ў іншыя гарады СССР.

У 30-х гадах, калі на папяровай фабрыцы было створана спартыўнае таварыства «Бумажник», сфарміраваліся тры футбольная каманды, з іх адна юнацкая. Трэнерам працаваў старшы інструктар Міхаіл Васільевіч Шаўчэнка. Яго маладшыя калегі Якаў Казлоў і Віктар Мартынаў выступалі заядлымі футбалістамі.

Удалося ўстанавіць таксама прозвішчы некаторых іншых ігракоў, большасць якіх у час Айчыннай вайны адважна ваявалі на франтах, а некалькі спартсменаў патеройску загінулі. У ліку даваенных футбалістаў — Павел Дзергачоў, Сяргей Мілеўскі, браты Яўген і Вячаслаў Агрызка, Юзеф Шпілеўскі, Ноіхім Гершгорын. Моцнымі варатарамі зарэкамендавалі сябе Ілья Гутараў і Анатоль Сыцінскі. Як тады, так і ў пасляваенныя гады актыўна ігралі на футбольным полі Андрэй Дземукоў, Ігар Каліноўскі, Сцяпан Сцяпанаў, Фёдар Гарэлікаў, Міхаіл Калужны і іншыя.

Побач з катастрафічнымі разбурэннямі Айчыннай вайны фабрычны стадыён уцалеў. Аднаўляўся горад, папяровая фабрыка і іншыя прадпрыемствы, і зноў разгарталася фізкультурна-масавая работа. Не зважаючы на цяжкасці пасляваеннага перыяду, аматары футбола згуртавалі новую каманду, арганізавалі трэніроўкі і спаборніцтвы.

У сувязі з тэхнічнай рэканструкцыяй вытворчасці стары стадыён «Героя працы» быў закрыты, а для спартыўнай базы выкарысталі вострaў. З пазіцый сённяшняга дня такое рашэнне выглядае няправільным: былі знішчаны рэліктавы гай, высечана вялікая колькасць старадаўніх дубоў. Тое, што засталося, — толькі сумны напамінак аб колішняй прыгажосці...

Але як бы там ні было, паступова востраў стаў своеасаблівым стадыёнам. Тут былі абсталяваны валейбольная і баскетбольная пляцоўкі (апошняя адначасова выкарыстоўвалася вечарамі для танцаў), футбольнае поле (зімой яго залівалі вадой пад каток і для хакея), паблізу была лодачная станцыя.





Аб масавасці фізкультурнага руху ў мінулыя дзесяцігоддзі сведчаць шматлікія фотаздымкі, дакументальныя факты. Усеагульнай была і цікавасць дабрушан да праводзімых спаборніцтваў. Так, у 1954 годзе «паломніцтва» нашых балельшчыкаў было такім, што пад цяжарам людзей абрушыўся пешаходны мост на востраў...

На архіўным здымку 60-х гадоў — фабрычная каманда таго часу: Аляксандр Раманаў, Міхаіл Калужны, Мікалай Сазонаў, Міхаіл Абозны, Рэанальд Гутараў, Віктар Карпенка, Леанід Пятроў, Анатоль Плаксін, Яўгеній Кулікоў, варатар Аляксандр Асадчы, капітан Юрый Казлоў. Большасць ігракоў — рабочыя-папернікі, якія цяпер ужо ветэраны працы. У такім саставе добрушскі «Бумажник» паспяхова выступаў у спаборніцтве на першынство Гомельскай вобласці і рэспублікі сярод каманд сваёй групы.

Выдатнымі футбалістамі праславіліся ў 60-70-я гады таксама Ігар Каліноўскі, Леанід Мосін, Віктар Краўчанка, Георгій Хоміч, Міхаіл Балюноў і іншыя. Ранейшыя ігракі, штатныя спорт-інструктары Якаў Сямёнавіч Казлоў і Пётр Пятровіч Жалдакоў сталі спартыўнымі суддзямі рэспубліканскай катэгорыі.

У Добрушы праводзіліся таварыскія матчы і спаборніцтвы за ганаровыя прызы з футбалістамі суседніх раёнаў не толькі нашай вобласці, але і Браншчыны, і Чарнігаўшчыны, з аднаклубнікамі Гомеля, Рэчыцы, Мазыра і іншых, з прадстаўнікамі спартыўных калектываў роднасных прадпрыемстваў цэлюлозна-папяровай прамысловасці Беларусі, Расіі і Украіны, прыбалтыйскіх рэспублік, з футбольнымі камандамі буйных гарадоў, — да прыкладу, з ленінградскім «Зенітам», камандай "Ністру" (г.Бендэры, Малдавія), «Лакаматывам» г.Тбілісі (Грузія), аднайменнай камандай з Масквы...

**П.СТРЫБУК, журналіст.**
**(Працяг будзе)**

***НА АРХІЎНЫХ ЗДЫМКАХ: фабрычная каманда «Вымпел», якая заняла другое месца на занальных спаборніцтвах 1948-49 гадоў у г.Рыга (Латвія); каманда дабрушан — чэмпіён Гомельскай вобласці ў 60-х гадах.***

ЦЭНЫ

## Цукар патрабуе павелічэння цаны?

Па словах спецыялістаў «Белдзяржхарчпрама», у другім квартале гэтага года адбыўся значны рост цэн на сырац на сусветных біржах. Так, з сакавіка па ліпень яны павяліччыліся з 4,6 цэнта за фунт да 10,6 цэнта. Гранічныя ж адпускныя цэны на белы цукар адпаведным чынам не змяніліся. (Затраты на сыравіну займаюць каля 80 працэнтаў у сабекошце белага цукру — «ІФ».) Устаноўленая адпускная цана на цукар (316 бел. руб. за кг без ПДВ) цяпер не толькі не забяспечвае прыбытак ад яго рэалізацыі, але і не пакрывае выдаткі на вытворчасць. У такіх умовах фірмам-пастаўшчыкам сырцу нявыгадна рэалізоўваць цукар на беларускім рынку. На суседніх рынках Расіі і Украіны цэны на гэтую прадукцыю больш высокія, адзначылі ў «Белдзяржхарчпраме».



Калектыў пажарнага аварыйна-выратавальнага атрада выказвае глыбокае спачуванне інспектару ХУТАРЦОВУ Аляксандру Аляксандравічу ў сувязі са смерцю **бацькі**.

Калектыў СШ №5 г.Добруша выказвае глыбокае спачуванне былой настаўніцы АКСЁНЧЫКАВАЙ Марыі Аляксееўне ў сувязі з заўчаснай смерцю **сына Аляксандра**.


"Добрушскі край" - масавая газета (на беларускай мове). Рэгістрацыйны №44.
Індэкс 64176 (інд.), 63994 (вед.)

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: Добрушскія райвыканкам, раённы Савет дэпутатаў, рэдакцыя газеты "Добрушскі край".

В.А. ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА МІКОЛА ШЫШОЎ

*Газета выходзіць у аўторак, чацвер і суботу. Друк афсетны. Аб'ём 1,0 друк. аркуш.*
Тыраж 5140 Заказ 1167.

Адрас рэдакцыі: 247050, Рэспубліка Беларусь, г.Добруш, Гомельскай вобласці, вул. Савецкая, 33.

Тэлефоны:
галоўнага рэдактара ... 2-11-44
намесніка галоўнага рэдактара ... 2-19-62
прыёмнай ... 2-14-02
бухгалтэрыі ... 2-26-64
рэдактараў аддзелаў ... 2-39-91, 2-19-84.
E-mail:root@kraj.belpak.gomel.by

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыйна-паліграфічнага прадпрыемства "Добрушскі край", надрукавана на Добрушскай папяровай фабрыцы "Герой працы".
*Падпісана да друку — 8.30*

Меркаванне аўтараў публікацыі не абавязкова адлюстроўвае пункт гледжання рэдакцыі.

Дапамогу рэдакцыі ў тэхнічным забеспячэнні выпуску выдання аказвае навукова-вытворчае прадпрыемства "Сервер". СЕРВЕР
Адрас НВП "Сервер": г.Гомель, вул.Карбышава,2, п.419.
Тэлефоны: 47-47-50, факс 47-57-57.